# Следчым загадалі прачнуцца





Праз 3 месяцы пасля варварскага разбурэння памятнага знаку ў Курапатах – каменнай лавы, усталяванай ад імя амерыканскага народу прэзідэнтам Білам Клінтанам у 1994 годзе, – следчыя Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага раёну нарэшце прыняліся за расследаванне. Што перашкаджала следчым шукаць вінаватых па «гарачых слядах», што іх стрымлівала – застаецца таямніцай. Шанцы на станоўчыя вынікі следства, зразумела, моцна змізарнелі. Дый пачатак запозненага расследавання дзіўнаваты. Чамусьці следчыя пачалі сваю працу з распытвання некалькіх валанцёраў, якія цяпер удзельнічаюць у назіранні за будаўнічымі работамі па рэканструкцыі МКАД каля ўрочышча Курапаты, але не былі там у часе пагрому.

Адначасна міліцыя выклікала і кіраўніка міжнароднай камісіі Маладога Фронту Сяргея Лісічонка па справе сутычкі, якая адбылася 9 лістапада, калі мінскія амапаўцы на тэрыторыі мемарыяла прымянілі сілу супроць яго абаронцаў. С.Лісічонку тады разбілі галаву, і ён абскардзіў дзеянні АМАПа ў пракуратуру. Сілавыя дзеянні ў Курапатах набылі скандальны рэзананс .

Нядаўна вызвалены пасля адміністратыўнага арышту старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец расцаніў нечаканую актыўнасць следчых як цалкам кан'юнктурную акцыю – заглажванне віны перад амерыканскім народам за апаганены падарунак у нацыянальным месцы смутку і жаданнем зменшыць пачуццё абразы, якую выклікае ўлада, распачаўшы непаважлівую будоўлю на святой мясціне. Мноства людзей мяркуе, што восеньская вылазка варвараў у Курапаты, зруйнаванне амерыканскага падарунка ды іншыя дзікунствы былі першымі арганізаванымі крокамі ўладаў, каб рэканструяваць МКАД і адначасна занядбаць месца, дзе сталінскія карнікі масава расстрэльвалі невінаватых людзей.

Бліжэйшы час пакажа, на што здольныя следчыя, прачнуўшыся на тры месяцы пазней, чым патрабавалі іхнія абавязкі.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Суд «імя 40-годдзя выбуху»

5 снежня ў Гродне адбыўся суд над мастаком З.Іваноўскім, якога міліцыянты лічаць арганізатарам недазволенага мітынгу. 29 лістапада споўнілася 40 гадоў з таго дня, як улады зруйнавалі славуты сярэднявечны касцёл — Фару Вітаўта — паводле злачыннага рашэння за нумарам 213, якое гарвыканкам прыняў на жаночае свята — 8 сакавіка 1961 году. Гараджане хацелі сабрацца ў гэты дзень на месцы, дзе стаяў помнік архітэктуры. Улады дазволу не далі. Людзі ўсё адно сабраліся. Адзін з замоўшчыкаў мітынгу, З.Іваноўскі, паведаміў сабраным, што мерапрыемства не будзе праводзіцца, паколькі забароненае. Аднак міліцыя ўсё ж склала на сп.Іваноўскага пратакол.

У судзе ён сказаў, што людзі прыйшлі, бо прачыталі пра плянаваны мітынг у газетах. Папярэдзіць іх, каб не прыходзілі, ён не паспеў, бо рашэнне пра забарону яму прыслалі з гарвыканкаму толькі 28 лістапада ўвечары.

З.Іваноўскі лічыць, што ўлады, напэўна, цынічна зблыталі мерапрыемствы. Яны адказалі, што ўсе мітынгі трэба праводзіць у парку «імя 40-годдзя камсамолу». Вось такія два розныя саракагоддзі. Тое, што ўлады не дазволілі праводзіць мітынг нават у парку, ускосна сведчыць пра іх адносіны да варварства, здзейсненага ў 1961 годзе. Яны выказалі сваю пераемнасць.

Іваноўскі лічыць, што ўладам не спадабалася сама тэма мітынгу-рэквіему— «Без гісторыі няма будучыні».

Пасля таго, як З.Іваноўскі сказаў сабраным, што мітынгу не будзе, ён прапанаваў прысутным памаліцца, бо пакуль існуюць падмуркі, храм яшчэ жывы. А падмуркі Фары Вітаўта захаваліся.

У судзе атрымалася, што ўся віна З.Іваноўскага звялася да заклiку: «Давайце разам памолімся». Ён, дарэчы, беспрацоўны, мае дзвюх непаўналетніх дачок. Працу мае толькі жонка. Таму ён і папрасіў, калі суддзя прызнае яго вінаватым (сам мастак сваёй віны не прызнаў), даць яму арышт, а не штраф.

6 снежня суддзя С.Ярашэвіч абвясціў прысуд З.Іваноўскаму — 150 мінімальных заробкаў, або паўтара мільёна рублёў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Будзе «справа банкіраў»?

Праз два тыдні пасля гучных арыштаў дырэктараў «Атланту» і стадыёна «Трактар», а таксама адхілення ад пасады начальніка Беларускай чыгункі, Аляксандр Лукашэнка выказаў скрайнюю незадаволенасць працай банкаўскай сістэмы. Звычайна пасля такіх «наездаў» вядзецца пошук вінаватых. Першая ў чарзе па кайданкі – кіраўніца «Беларусбанку» Надзея Ермакова.

Нарада, якая прайшла ўчора ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі, прысвячалася абмеркаванню канцэпцыі развіцця банкаўскай сістэмы Беларусі на перыяд да 2010 года, распрацаванага адмыслоўцамі Нацбанку, міністэрстваў эканомікі і фінансаў, супрацоўнікамі камерцыйных банкаў і навукоўцамі.

На нараду запрасілі прэм'ер-міністра Генадзя Навіцкага, ягоных намеснікаў, міністраў, старшыняў абедзвюх палатаў Нацыянальнага сходу, кіраўнікоў найбуйнейшых беларускіх банкаў. Вельмі паказальна, што сярод іншых у зале былі генеральны пракурор Віктар Шэйман і старшыня Камітэту дзяржаўнага кантролю Анатоль Тозік.

Аляксандр Лукашэнка выступіў з вельмі рэзкай прамовай, у якой выказаў скрайнюю незадаволенасць працай банкаўскай сістэмы краіны, а таксама якасцю кантролю за ёю з боку Нацыянальнага банку. Ён запатрабаваў «неадкладна навесці парадак у канкрэтных банках, у тым ліку і ў Нацыянальным». Адсутнасць парадку, мяркуючы па словах беларускага кіраўніка, ён разумее як выдачу беззваротных і праблемных крэдытаў. А.Лукашэнка заявіў, што на сённяшні дзень амаль 300 мільёнаў даляраў, пазычаныя ў камерцыйных банкаў, – гэта «праблемныя нявернутыя крэдыты». Ён звярнуўся да кіраўнікоў праваахоўных органаў з патрабаваннем «прыняць меры» да тых, «хто даваў і браў такія крэдыты».

Па словах А.Лукашэнкі, значная частка нявернутых крэдытаў «асела за мяжой». «Грошы мусяць быць вернутыя ў краіну», падкрэсліў беларускі кіраўнік.

Першай ахвярай гневу кіраўніка дзяржавы стала Надзея Ермакова, старшыня праўлення акцыянернага ашчаднага банку «Беларусбанк». Яе раскрытыкавалі за «нікуды не вартую ліквіднасць банку, асабліва рублёвую». А.Лукашэнка высунуў сур'ёзныя абвінавачанні на адрас кіраўніцтва найбольшага ў Беларусі банку: «Выкідаюцца грошы пад невалютаакупныя крэдыты, у тым ліку з дапамогай ураду, і ў той жа час сваім супрацоўнікам пазыкі выдаюцца налева і направа яшчэ спрытней, чым у камерцыйных банках». На дадатак кіраўнік краіны наўпрост нагадаў Н.Ермаковай пра блізкую перспектыву «доўгае дарогі і казённага дому», параўнаўшы яе «Беларусбанк» з Беларускай чыгункай. Як вядома, супраць кіраўніка БЧ Віктара Рахманько ўзбуджаная крымінальная справа; яму прад'яўленае абвінавачанне ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі і крадзяжах у асабліва буйных памерах.

Кантрольным органам А.Лукашэнка напомніў пра тое, што яны адказваюць за навядзенне належнага парадку ў банкаўскай сферы краіны. В.Шэймана і А.Тозіка ён папярэдзіў аб персанальнай адказнасці за выкананне гэтай задачы. «Прабачэння тым, хто жыруе на людскіх грашах і не аказвае ніякай дапамогі народу і дзяржаве, не будзе», заявіў А.Лукашэнка.

У заключэнне беларускі кіраўнік заявіў, што ягонае «прапясочванне» – толькі «прэлюдыя», сапраўдныя ж рэпрэсіі супраць кіраўнікоў банкаўскай сферы пачнуцца не раней, чым праз месяц – у студзені-лютым 2002 года. Мяркуецца, што чарговая публічная лупцоўка банкіраў пройдзе ў Палацы Рэспублікі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Незалежнасць ад Савецкага Саюзу

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

***— З тым самым Гарбачовым?***

— Не, напачатку з Ельцыным. А пасля прывялі і Гарбачова. І ўсё пайшло зноўку. Як заўсёды на дзяржсавеце, былі толькі два варыянты вырашэння пытання: альбо ўсе падпісвалі тое, што прынёс Гарбачоў, альбо нічога не падпісвалі наогул. Карэктывы ўносіць было немагчыма, Гарбачоў быў упэўнены, што ўсё зроблена добра. Такая была спецыфіка часу.

***— А як Вы тады запрасілі Ельцына ў пушчу? І як да гэтага палявання далучыўся Краўчук?***

— Тады, 1 снежня, праходзіў рэферэндум на Украіне па пытанні незалежнасці, і адказ быў зразумелы. Сацыялагічныя даследаванні гэта паказвалі. А ў нас былі эканамічныя праблемы — паміж Беларуссю і Украінай. Трэба было іх вырашаць разам. І таму, ведаючы, што сустрэча ў пушчы будзе, Кебіч мне кажа, што, можа, было б добра запрасіць Украіну. Ну, я кажу, узгадні ў рабочым парадку, калі яны згодныя, тады я ўзгадню з Ельцыным. Так і сталася.

***— А калі сабраліся ў Віскулях, то ўжо ўсе дакументы былі падрыхтаваныя?***

— Не, нічога не было, пісалася на месцы. Ва ўсялякім разе, калі нешта было падрыхтавана, то я пра гэта не ведаю. Зразумела, былі падрыхтаваныя дакументы, але зусім не для падпісанага там пагаднення. Там ішлі перамовы паміж урадавымі дэлегацыямі па шэрагу эканамічных пытанняў, яны тады называліся гаспадарчымі часцей, чым эканамічнымі. Гэтыя ўсе пытанні абмяркоўваліся, бо дэлегацыі былі вельмі ўплывовыя. Дзяржсакратар ад Расіі быў, былі Гайдар, Козыраў. Усе эканамічныя праблемы вёў Гайдар, міжнародныя — Козыраў як міністр замежных справаў. Тое самае з боку Украіны — Фокін і быў міністр замежных справаў. Так што можна было абмеркаваць любое пытанне.

***— Было адчуванне таго, што адбываецца такая маштабная падзея?***

— Шчыра кажучы, я такога адчування не меў. Я проста лічыў, што трэба рабіць работу. Ну я і рабіў. У мяне не было пафасу адчування гістарычнасці падзеі. Не. Гэта пасля ўжо...

***— Але ж калі падпісвалася такая дамова, то, па сутнасці, рушылася якая-небудзь іншая, якая праіснавала колькі гадоў... Нейкія трэнні мусілі быць... Ці былі?***

— К таму часу я быў глыбока перакананы, што раз ужо прыбалты адышлі, то сістэма пачала развальвацца. Працэс пайшоў. Я добра разумеў, што значыць заява пра «спыненне існавання». Але вось такога адчування, што мы робім суперсправу, – такога не было.

***— Паляванне ўсё ж такі адбылося? Звычайнае паляванне?***

— На паляванне хадзілі толькі два чалавекі — Краўчук і Фокін. Ну відавочна, было нармальнае паляванне па канонах, я ніколі на паляванне не хадзіў у жыцці, і там не збіраўся ісці. Фокін падстрэліў кабанчыка, а Краўчук — не. Быў нават жарт распаўсюджаны, ці то міф, ці то праўда было, не ведаю да гэтага часу, бо Краўчук добры паляўнічы лічыцца. А так казалі, што ён перабіў тую вяроўку, якою быў прывязаны для яго кабанчык, а Фокін трапіў у свайго кабанчыка, гэта значыць, які быў для яго прывязаны.

***— А калі далей разглядаць ужо вынікі гэтых падзеяў? Як усё праходзіла ў Вярхоўным Савеце? Бо вось, скажам, адна вядомая асоба ўвесь час спекулюе на гэтую тэму - што яна там адзіная галасавала супраць...***

— Па-першае, гэтая асоба, якая спекулюе, нават не прысутнічала на паседжанні, гэта пратакольна зафіксавана ў Вярхоўным Савеце, і не ведаю чаму, мо збегла. Галасаваў супраць у нас адзін чалавек – гэта Ціхіня Валерый Рыгоравіч. Яшчэ выступалі супраць фронтаўцы, Зянон Пазьняк, бо ён неяк разумеў, што вось новы саюзны дагавор селі разглядаць. Як быццам бы можна было гаварыць аб тым, што іншым далучацца нельга. А так у нас на рэдкасць адзінадушна прайшло. У Расіі было, дакладна, я памятаю, шэсць галасоў супраць. У нас – адзін. Бо ў Расіі была двуххадоўка. Яны юрыдычна ратыфікавалі пасля нас, але практычна яны з усім пагадзіліся да нас. Там вельмі палка выступаў Ельцын. Ён казаў, што саюз ужо загінуў, што контуры гэтага пагаднення былі відаць яшчэ год назад. І ён пераконваў значна больш сур'ёзна. Я баяўся ратыфікацыі, бо калі б не ратыфікавалі, значыцца, мне трэба было б ісці ў адстаўку, таму што я падпісаў пагадненне, перакананы, што яно правільнае, і я правільна зрабіў, і ўсё. І ратыфікавалі на рэдкасць дружна. Бывае, як кажуць.

***— Калі вярнуцца назад у Белавежскую пушчу, там, калі адбывалася менавіта сама падзея, ці былі нейкія супрацьдзеянні? Ну, хоць бы таму, што ўрад у нас таксама быў створаны партыйнай наменклатурай і яго ўзначальваў Кебіч?***

— Тут, бачыце, падпісанне ішло дзвюма асобамі ад краіны. Наогул спачатку думалі падпісваць толькі ўтрох — першыя асобы дзяржаваў. Ну, а пасля ўжо вырашылі, каб было відаць адзінства ўрада, заканадаўчай і выканаўчай уладаў, то шасцёра падпісалі, і абмяркоўвалі ўсе пазіцыі шасцёра. Так што цэлы дзень працавалі над гэтым, усё было прынята кансэнсусам. Нічога ніхто, нідзе ніяк супраць не выказаўся. Ну а пасля Кебіч ужо пачаў каяцца. Ён сказаў, што зрабіў памылку, што выправіць яе сваім жыццём і ўсё такое. Мне здаецца, цяпер ён зноў паразумнеў, бо ўжо так болей не кажа.

***— А вось цяпер, калі дзесяць гадоў прайшло, як Вы ацэньваеце, што з гэтага атрымалася?***

— Цяпер Беларусь фактычна груба парушае Белавежскае пагадненне. Магу сказаць, па якіх пунктах. Па-першае, Белавежскім пагадненнем кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў абавязваліся выконваць агульна-прызнаныя нормы дэмакратыі і правоў чалавека. Гэтак запісана. Бо якія ж тут выконваюцца нормы, калі нават канстытуцыю ў нас няма як выправіць у дэмакратычную, бо яна ў сваёй аснове антыдэмакратычная. Быў цывілізаваны развод, а вось яднанне нецывілізаванае.

***— Гэта так. Але Расія захавала сваю імперскую сутнасць, яна не адмаўляе, што была б вельмі задаволеная, каб Беларусь увайшла ў сферы яе палітыкі, поўнасцю залежныя ад Расіі. Паціху ідзе такая эскалацыя ўплыву, што Беларусь, калі так і далей будзе працягвацца, можа ўжо нават і не пры Лукашэнку, ці Лукашэнка будзе проста адсунуты ў бок, – паглынуць. Ці можа быць гэткае аб'яднанне назад?***

— Расія працягвае імперскую каланіяльную палітыку. І незаконнае надзяленне Лукашэнкі ўладай здзейснілі, вы добра ведаеце, тры першыя асобы ў Расіі. Хопіць пальцаў адной рукі, каб пералічыць вядомых расійскіх палітыкаў — не імпершчыкаў, ці, прасцей кажучы, вялікадзяржаўных шавіністаў. А ўсе астатнія — спачатку імпершчыкі. Але пасля трагічных падзеяў 11 верасня ў мяне такое ўражанне, што Пуцін пачынае не толькі дэклараваць пазіцыі дэмакратыі ў міжнародных адносінах, але і прытрымлівацца іх. І пачынае падтрымліваць заходнія ініцыятывы, ініцыятывы Злучаных Штатаў...

***— Вы хочаце сказаць, што ён перастаў быць вялікадзяржаўнікам?***

— Не. У Расіі палітык высокага рангу не можа не быць вялікадзяржаўнікам, бо яго інакш ястрабы знішчаць. І таму гэта праблематычна. Але ў такіх экстрэмальных абставінах, мне здаецца, ён спачатку не раскрываўся, а тут фактычна адзначыў сваю пазіцыю. Калі такі падыход возьме верх у Расіі, гэта будзе добра. Ну, а калі ён адступіць, будзе так, як і было. А цяпер, што да паглынання...

***— Паглынанне ці другое Белавежскае пагадненне? Бо там было некалькі, здаецца, шэсць пагадненняў?***

— Ведаеце, прыстойнае пагадненне захаваецца. А шэсць... можна штогод яшчэ шэсць напісаць. І біць там шклянкі і званіць у званы крамлёўскія. Гэта ідэалагічныя пагадненні – усе тыя, якія былі заключаныя між Беларуссю і Расіяй. А там было нармальнае пагадненне – палітычнае. І важкасць яго бачыце? Тут шэсць пагадненняў – і ўсе на сметнік. А тады адно было, усяго з чатырнаццаці пунктаў. Вось, жыве, мае вялікія перспектывы.

***— Вы лічыце, што гэтае першае пагадненне незваротнае?***

— Абсалютна. Ужо адно тое, што Украіна пайшла па шляху незалежнасці. Дый іншыя рэспублікі ўжо пасля Алма-Ацінскага пагаднення. Я б сказаў, гэта непазбежна. І з Беларуссю так будзе ўрэшце. Ад гэтага няма куды падзецца. Гэта тут можна казаць, што выбары выйграны з высокім працэнтам, але разумны чалавек ведае, што такога працэнту наогул не можа быць, калі чалавек доўга пры ўладзе. У прынцыпе яго не бывае. Значыць, гэта падман. І такога маштабу, што ні пра якае тут падабенства да дэмакратыі гаворкі быць не можа.

***— Наогул пра дэмакратыю мы пакуль не гаворым. Тут менавіта пра суверэнітэт і незалежнасць.***

— Белавежскае пагадненне ў плане суверэнітэту самае важнае, безумоўна гістарычнае. Расія ўпершыню за 200 гадоў пасля далучэння беларускай тэрыторыі прызнала незалежнасць Беларусі, а таксама і незалежнасць Украіны. Вось што такое для мяне і Краўчука было Белавежскае пагадненне. А мы прызналі незалежнасць Расіі. Незалежнасць ад Савецкага Саюзу. Вось вам і сэнс гэтага пагаднення.

**Інтэрв'ю браў**
**Павел АНТАНОВІЧ**

## Калядная калекцыя бялізны

Сёлета мінскае сумеснае прадпрыемства ЗАТ «Мілавіца» больш паспяхова выглядае на знешніх рынках, чым на ўнутраным.

Хаця аб'ём выпуску прадукцыі ў параўнанні з мінулым годам не паменшыўся, знізіўся аб'ём продажу ў Беларусі. Гэта звязана ў першую чаргу з узрослай канкурэнцыяй з боку іншых айчынных і замежных вытворцаў, а таксама з павелічэннем колькасці падробнай прадукцыі з выкарыстаннем таварнага знака «Мілавіца». Пра гэта заявіла генеральны дырэктар прадпрыемства Зінаіда Валеха.

Паводле слоў Валехі, экспарт прадукцыі ў Расію, краіны СНД і далёкага замежжа павялічыўся сёлета на 13 працэнтаў. У Расіі, напрыклад, рэалізавана 5 мільёнаў адзінак прадукцыі «Мілавіцы». У ліпені гэтага года, паведаміла яна, у Маскве зарэгістраваны філіял «Мілавіцы» і адкрыты першы фірменны магазін рознічнага гандлю. Рознічныя гандлёвыя кропкі, дзе рэалізуецца прадукцыя мінскага прадпрыемства, адкрыты сёлета і ў некалькіх гарадах Украіны.

Што да новай калекцыі «Мілавіцы» «Калядныя карункі ад «Мілавіцы», традыцыйна прадстаўленай да свята, дык на гэты раз жанчын парадавалі серыямі «Тату» і «Кармэн». Яны выраблены з улікам новых кірункаў сусветнай моды. Усе матэрыялы, выкарыстаныя ў калекцыі, імпартныя.

Прадпрыемства вядзе адлік сваёй гісторыі з 1929 года. У 1992 годзе было створана закрытае акцыянернае таварыства «Мілавіца», а ў 2000-м — СП ЗАТ «Мілавіца». Доля італьянскіх інвестыцый складае 31 працэнт. «Мілавіца» стала першым беларускім прадпрыемствам, атрымаўшым міжнародны сертыфікат якасці *ISO 9001* у 1996 годзе.

**Лавінія АРЭШКА**



Фота Ул.ШЛАПАКА

## Порах пераробяць на лакі

У Інстытуце механікі металапалімерных сістэм Беларусі створана эфектыўная імпартазамяшчальная тэхналогія утылізацыі пораху на аснове піраксіліну. У выніку утылізацыі ўтвараюцца хімічныя рэчывы, якія можна выкарыстоўваць для вытворчасці лакаў. Зараз сыравіну для вытворчасці лакаў Беларусь купляе за мяжой.

«Утылізацыя пораху — сур'ёзная праблема. У свеце і ў Беларусі накоплены вялікія запасы боепрыпасаў з закончанымі тэрмінамі захоўвання», — сказаў у інтэрв'ю БелаПАНу намеснік дырэктара інстытута Васіль Савіцкі. Паводле яго слоў, прапановы па выкарыстанні гэтай тэхналогіі перададзены ў міністэрства абароны Беларусі.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Спажыўцам надаюцца правы

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі ўхваліла ў другім чытанні законапраект «Аб абароне правоў спажыўца».

Дакумент вызначае агульныя прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя асновы абароны правоў спажыўца. Як указваецца ў праекце, вытворца абавязаны своечасова прадастаўляць спажыўцу «неабходную і дакладную інфармацыю» аб таварах (работах, паслугах). Яна павінна ўтрымліваць найменне тавару, звесткі пра яго асноўныя спажывецкія ўласцівасці, а ў адносінах да прадуктаў харчавання — пра склад, харчовую каштоўнасць (для прадуктаў дзіцячага, лячэбнага і дыетычнага харчавання — каларыйнасць, наяўнасць вітамінаў), указанне на тое, што прадукт харчавання з'яўляецца генетычна мадыфікаваным або ў ім выкарыстоўваюцца генетычна мадыфікаваныя складаючыя.

У звестках аб таварах павінны таксама ўтрымлівацца інфармацыя аб цане і ўмовах яго набыцця, гарантыйны тэрмін (калі ён устаноўлены), дата вырабу, тэрмін службы або прыгоднасці або тэрмін захоўвання тавару, указанне ўмоў захоўвання тавару, найменне, юрыдычны адрас вытворцы і месца знаходжання арганізацыі, упаўнаважанай вытворцам на прыняцце прэтэнзій пакупніка, інфармацыя аб сертыфікацыі тавараў, іх велічыні, масе, а таксама неабходныя звесткі аб правілах бяспечнага выкарыстання.

У законапраекце вызначана, што функцыі абароны правоў спажыўцоў бярэ на сябе дзяржава ў асобе міністэрства гандлю.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Беларускія махляры атакуюць Амерыку

За апошнія гады шэраг амерыканскіх камп'ютэрных кампаній сталі ахвярамі махляроў з Беларусі, паведамляе на сваёй старонцы ў інтэрнэце Служба дзелавой інфармацыі для новых незалежных дзяржаў (*BISNIS*), якая ўваходзіць у Дэпартамент гандлю ЗША.

Махляры выкарыстоўваюць падробленыя крэдытныя карткі ці скрадзеную інфармацыю аб чужых крэдытоўках для закупкі ў ЗША камп'ютэрнага абсталявання ды іншай высокатэхналагічнай прадукцыі. Напрыклад, у лютым 1999 года фларыдская кампанія паставіла ў Беларусь камп'ютэрных дэталяў на 40.000 даляраў ЗША, пакуль ашуканства было выкрыта. Зусім нядаўна шэраг кампаній у Каліфорніі і Вірджыніі атрымалі факсімільныя ці электронныя паведамленні з Беларусі з замовай на вялікія пастаўкі камп'ютэрных дэталяў. Пры гэтым амерыканскіх пастаўшчыкоў прасілі пераслаць груз праз хуткасныя паштовыя службы, без страхоўкі, а таксама занізіць у плацёжных дакументах вартасць грузу, каб зменшыць мытныя пошліны. Для аплаты прадстаўлялася да 10 нумароў крэдытных картак.

Крысу Слэйду, бухгалтару кампаніі *Boost peripheral systems* з каліфарнійскага горада Сакрамэнта, якая атрымала такую замову, здалося падазроным, што два з прадстаўленых нумароў крэдытак былі заблакаваныя. Ён прасачыў інфармацыю аб адной з картак да шведскага банку, дзе яму паведамілі, што крэдытоўка несапраўдная.

«Звычайна праваахоўныя органы вельмі мала чым могуць дапамагчы вам у выпадках міжнароднага махлярства», — цытуецца ў аглядзе *BISNIS* Одры Ланфард, рэдактара інтэрнэт-выдання *ScamBusters*, якое дае парады па барацьбе з сецевым ашуканствам.

Прадстаўнік пасольства ЗША ў Мінску паведаміў БелаПАНу, што пасольства атрымоўвала інфармацыю ад амерыканскіх кампаній, ашуканых з Беларусі.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

ЭКСПРЭС

## Прагнозы, пазыкі, разлікі

### Прадпрымальнікам — «падачку»

Па апошніх звестках, недзяржаўныя прадпрыемствы забяспечваюць больш за 40% агульнага аб'ёма прамысловай прадукцыі і каля 77% паштучнага таваразвароту Беларусі. Аднак на дзейнасці прадпрымальнікаў па-ранейшаму адбіваецца нестабільнасць заканадаўства, высокі ўзровень падаткаабкладання. Па словах намесніка міністра эканомікі Андрэя Тура, ужо вядзецца праца па скарачэнні спісу ліцэнзаваных відаў дзейнасці, плануецца ў бліжэйшы час спрасціць працэдуры рэгістрацыі і на 2002 год намечана зменшыць падатак на прыбытак з 30 да 24%.

### Колькі каштуюць алімпійскія медалі?

Сёлета на падрыхтоўку нашых спартсменаў да XIX Зімовай алімпіяды, што адбудзецца ў Солт-Лэйк-Сіці, будзе затрачана каля 1,5 млрд. рублёў (на 519 млн. ужо закуплена спартовая экіпіроўка). Для падрыхтоўкі да алімпіяды пасля адбору засталося 85 спартсмэнаў, а ўся дэлегацыя складзе каля 130 чалавек.

### Інвестыцыйнай палітыцы патрэбна дэзінфекцыя

З 1 снежня міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь пачынае рэалізоўваць новую канцэпцыю стратэгіі, метадалогіі і сэрвіснага абслугоўвання замежных інвестараў. Увогуле праграмай на 2002 год прадугледжваецца, што замежныя інвестыцыі будуць складаць прыкладна 400 млн. даляраў.

### Гандаль скрадзенымі аўто непакоіць Інтэрпол

Кожныя 10 секунд у свеце крадуць адзін аўтамабіль, прыбытак ад іх продажу складае штогод больш за 21 млрд. даляраў. Гэта больш за прыбытак такіх аўтагігантаў, як «Фольксваген» і «Даймлер-Крайслер» разам. Адзін з галоўных напрамкаў вырашэння гэтай праблемы, па меркаваннях экспертаў, — паляпшэнне эфектыўнасці банку дадзеных, у якім утрымліваюцца звесткі больш як аб 2,6 млн. аўтамабіляў, скрадзеных у 59 краінах.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

## Няма падтрымкі інавацыйных праектаў

Беларускія вучоныя маюць вострую патрэбу ў падтрымцы сваіх інавацыйных праектаў. Такі лейтматыў меркаванняў удзельнікаў праходзячай у Мінску выставы «Дасягненні айчыннай навукі — вытворчасці».

Самай вялікай праблемай для беларускіх вучоных на сённяшні дзень застаецца ўкараненне навуковых дасягненняў у вытворчасць і штодзённае жыццё. Напрыклад, у Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі створаны экалагічна чысты, танны і недэфіцытны пенаўтваральнік для ячэістых бетонаў (галіна прымянення — усім вядомыя будаўнічыя блокі). Выкарыстанне такога пенаўтваральніка зніжае расход закупляемай у Расіі алюмініевай пудры не менш чым на 20 працэнтаў. Эканамічны эфект ад укаранення пенаўтваральніка ў вытворчасць можа вылічацца мільёнамі даляраў ЗША ў год.

«Гэта даследчая праца. Мы сваімі сіламі выпусцілі доследную партыю, выпрабавалі. Але ні ў нас, ні ў прадпрыемстваў няма грошай на завяршэнне работ і ўкараненне пенаўтваральнікаў у вытворчасць», — паведаміла ў інтэрв'ю БелаПАНу старшы навуковы супрацоўнік Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Л.Бурдавіцына.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Асіметрыя інфармацыі і эканамічная палітыка

**Джозэф СТЫГЛІЦ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па эканоміцы 2001 году, прафесар эканомікі Калумбійскага ўніверсітэту, былы старшыня рады па эканамічных пытаннях пры прэзідэнту ЗША Дж.Клінтану**

*Нобелеўскую прэмію ў галіне эканамічных навук у гэтым годзе атрымалі Джордж Акерлаф з Каліфарнійскага ўніверсітэту, што ў Берклі, Майкл Спенс са Стэнфардскага ўніверсітэту і я за супольную працу па «асіметрыі інфармацыі». Дык у чым сутнасць гэтай працы?*

На працягу двухсот гадоў эканамісты выкарыстоўвалі простыя эканамічныя мадэлі, якія будаваліся на дапушчэнні пра вычарпальнасць і дакладнасць інфармацыі, інакш кажучы – на тым, што ўсе, хто зацікаўлены ў пэўнай справе, валодаюць пра яе адной і той жа агульнадаступнай інфармацыяй. Яны разумелі, што гэта не адпавядае рэальнаму стану рэчаў, але спадзяваліся, што, прыняўшы вычарпальнасць (паўнату) інфармацыі за аксіёму, на некаторыя невялікія недакладнасці можна не звяртаць увагі. Такі падыход не мае пад сабою трывалага грунту, бо нават маленькія разыходжанні ці недакладнасці ў інфармацыі могуць істотна ўплываць на паводзіны эканомікі.

Нобелеўскі камітэт адзначыў нашую працу па асіметрыі інфармацыі – адзін з аспектаў недасканаласці інфармацыі, абумоўленае, у сваю чаргу, тым, што розныя ўдзельнікі рынкавых аперацый валодаюць рознымі звесткамі. Напрыклад, прадавец аўтамабіля можа ведаць пра сваю машыну значна больш, чым яе пакупнік; а чалавек, які набывае страхавы поліс, можа лепш ведаць, наколькі верагодны няшчасны выпадак (прыкладам, ведаючы, як ён кіруе аўтамабілем); працоўны можа ведаць больш, чым патэнцыйны працадаўца, пра тое, ці зможа ён выканаць тую ці іншую працу; а пазычальнік можа ведаць пра свае мажлівасці выплаціць пазыку больш, чым той, хто пазыку дае. Аднак асіметрыя інфармацыі (нават мізэрная) можа прывесці да сур'ёзных вынікаў.

Мы з Джорджам Акерлафам былі аднакурснікамі ў Масачусецкім тэхналагічным інстытуце на пачатку 60-х гадоў XX ст. Нас навучалі тагачасным стандартным эканамічным мадэлям, аднак мы не знаходзілі ў іх вялікага сэнсу. Усе гэтыя мадэлі даволі спрошчана гаварылі пра тое, што попыт роўны прапанаванню. Штука ў тым, што нават з папугая можна зрабіць эканаміста, калі бясконца паўтараць пры ім «попыт і прапанаванне». Праверка вышэйзгаданага сцверджання дае цікавыя вынікі: калі б, напрыклад, попыт на працоўную сілу быў роўны прапанаванню, то беспрацоўя папросту не існавала б і г.д.

Я вырас у прамысловым горадзе Гэры, штат Індыяна, на паўднёвым узбярэжжы возера Мічыган, і на свае вочы бачыў галечу, беспрацоўе і дыскрымінацыю. Я паступіў на эканамічны факультэт, бо меў жаданне асэнсаваць гэтыя з'явы і зрабіць што-небудзь у гэтым кірунку. Таму знаёмства з мадэлямі, якія грунтаваліся на меркаванні, што беспрацоўя не існуе, падалося мне вельмі дзіўным, калі я пачаў вучыцца.

Нашыя мадэлі дапамагаюць патлумачыць, чаму рынкі не працуюць так, як – згодна са стандартнай тэорыяй – яны павінны працаваць: чаму рынку проста можа не быць, чаму можа мець месца беспрацоўе і чаму можа адбывацца рацыянаванне крэдыту. Яны таксама тлумачаць, чаму хвалі эканамічных катастроф могуць з цягам часу ўзмацняцца, а не сціхаць, і чаму іх вынікі захоўваюцца вельмі доўга пасля таго, як знікне першапрычына ўзрушэнняў.

Адна з найбольш сур'ёзных тэзаў нашай працы датычыць выказвання Адама Сміта пра тое, што рынкі, якія канкуруюць між сабою, прыводзяць да эфектыўных вынікаў, як быццам іх накіроўвала «чыясьці нябачная рука». Але наш аналіз паказаў: «чыясьці нябачная рука» не проста не бачная – яе наагул няма ці, калі нават і ёсць, то яна абсалютна нямоглая. У супольнай працы з Брусам Грынвальдам з Калумбійскага ўніверсітэту мы прадэманстравалі, што ва ўмовах рынкавай эканомікі мае месца ўмяшальніцтва ў рынкавыя працэсы з боку ўраду, якое можа быць карысным для ўсіх, нават калі ўрад сутыкаецца з той самай непаўнатой інфармацыі, што і прыватны сектар.

Эканамісты даўно пагадзіліся з тым, што перад абліччам «знешніх уздзеянняў» на эканамічную дзейнасць – такіх, як, напрыклад, забруджанне вады і паветра – рынкавыя рашэнні часта бываюць неэфектыўнымі. У такіх выпадках вытворчасць пэўнага кшталту прадукцыі (прыкладам, сталі, перапрацоўка якой забруджвае навакольнае асяроддзе) можа быць занадта высокая, у той час як вытворчасць іншае (напрыклад, правядзенне доследаў дзеля навукі ў гэтай галіне) – заніжаная. Гэтым мы прадэманстравалі: як толькі будзе прызнана, што інфармацыя не дасканалая – а яно насамрэч так і ёсць, – гэтыя знешнія ўздзеянні таксама будуць успрымацца як шырока распаўсюджаная з'ява, а значыць, хібы ў рынкавым рэгуляванні будуць лічыцца непазбежнымі.

Іронія ў тым, што ў той час, калі вялікая колькасць навукоўцаў па ўсім свеце займалася распрацоўкай гэтых ідэй і ўдасканаленнем нашай абазнанасці ў рынкавых абмежаваннях, міжнародныя эканамічныя арганізацыі праводзілі ў жыццё Вашынгтонскі кансенсус, які базуецца на рынкавым фундаменталізме і цалкам ігнаруе дэфекты рынкавага рэгулявання.

І нягледзячы на тое, што ўсе ўжо абазнаныя ў рынкавых абмежаваннях, шматлікія эканамічныя арганізацыі да сённяшняга дня не прынялі гэтыя веды на ўзбраенне. Такое становішча спараджае непаразуменні паміж гэтымі арганізацыямі і краінамі, якім яны даюць парады. Шмат бліскучых маладых спецыялістаў, якія працуюць на ўрады краін, што развіваюцца, грунтуюць свае даследаванні на разуменні рынкавай эканомікі, глыбейшым за тую старую ідэалогію і спрошчаныя мадэлі, якімі кіруюцца некаторыя міжнародныя бюракраты.

Я ведаю: некаторыя кажуць, што тэарэтычная праца на тэму асіметрыі інфармацыі, прызнаная Нобелеўскім камітэтам, ніяк не суадносіцца з тэзамі (палажэннямі) эканамічнай палітыкі, якую я праводзіў, працуючы ў Сусветным банку, у адносінах да Усходняй Азіі, Расіі ці развіцця сусветнай эканомікі. Гэта не адпавядае рэчаіснасці. Мая пазіцыя па лібералізацыі фінансавых рынкаў грунтавалася на тэорыі рэгулявання, якая, у сваю чаргу, базавалася на асіметрыі інфармацыі.

Непакой наконт банкруцтва (накшталт таго, што высокія стаўкі працэнта, якія навязваюцца МВФ ва Усходняй Азіі, зруйнуюць шмат фірмаў і нават адмоўна паўплываюць на абменны курс, а гэта, у сваю чаргу, выкліча эканамічную катастрофу і зробіць гэтыя краіны менш прывабнымі для інвестараў) бярэ пачатак у тэорыі асіметрыі інфармацыі. Вось найпрасцейшы доказ: у свеце дакладнай інфармацыі банкруцтва папросту не існавала б – ну праўда, хто б стаў пазычаць грошы, ведаючы, што пазычальнік будзе няздатны выплаціць даўгі? У рэальным свеце беспаспяховасць працэсу прыватызацыі была часткова выкліканая праблемамі карпарацыйнага кіравання, непасрэдна звязанымі з асіметрыяй інфармацыі пры ўзаемадзеянні менеджэраў і ўласнікаў.

Ідэі часам могуць мець такую самую моц, што і рэальныя капіталаўкладанні. І там, дзе старыя ідэалогіі і капітал працуюць разам, як гэта было ў мінулым, у некаторых выпадках гэта вядзе да рэалізацыі вызначаных задач, у іншых выпадках – не. Асіметрыя інфармацыі шчыльна звязаная з асіметрыяй эканамічных (рынкавых) магчымасцяў. І мэта ўраду ў такіх выпадках – не толькі выправіць хібы рынкавага рэгулявання, але і ліквідаваць асіметрыю магчымасцяў.

Наша праца – увагу шырокай грамадскасці да якой дапамог прыцягнуць Нобелеўскі камітэт – гэта частка інтэлектуальнай асновы «трэцяга шляху», які ўсё шырэй прызнаецца за адзіны сродак, каб дасягнуць эканамічнага прагрэсу, захаваўшы сацыяльную справядлівасць.

# Нарком Джанжгава

*Лаврентий Цанава, в отличие от своих предшественников, продержавшихся в кресле наркома НКВД БССР от двух месяцев до года, просидел в нем с конца 1938 до начала войны и затем еще семь послевоенных лет.*

На совести этого подручного Сталина и Берии — тысячи человеческих жизней. В первый год пребывания Цанавы в Белоруссии по политическим обвинениям было арестовано свыше 30 тысяч человек. Одного за другим убирал этот «Лаврентий-2» руководителей республики. И не только направлял следствие, но и лично допрашивал арестованных, используя весь арсенал пыточных методов и средств.

Архивы сохранили список депутатов Верховного Совета БССР первого созыва. Напротив фамилии Цанавы карандашом помечено «Друг Берии». Именно Берия посоветовал Л.Джанджгаве поменять его труднопроизносимую фамилию на более простую. А еще он спас Цанаву от позора. В 1922 году во время партийной регистрации тому не возвратили партийный билет, что фактически означало исключение из партии. Позже Цанава сам написал об этом эпизоде: «В бытность начальника политбюро ЧК в г. Телави в 1922 году, в период разгара борьбы с национал-уклонистами — последними было выдвинуто против меня обвинение якобы в незаконном уводе девушки. Дело было расследовано органами ЧК, и в 1923 году я был оправдан вовсе».

Девушку он действительно «умыкнул», и несдобровать бы Цанаве, если бы не выручил выдвинутый в заместители начальника ЧК Грузии Лаврентий Берия. Цанаву в партии восстановили, и с этого времени стал он верным слугой своего тезки.

Патрон, поднимаясь вверх по кровавым ступеням своей политической карьеры, вёл за собой и преданного холуя. Всего через неделю после назначения Лаврентия Берии наркомом внутренних дел СССР такой же пост получил в Белоруссии Лаврентий Цанава. Правда, для этого ему самому пришлось арестовать своего предшественника — А. Наседкина, в темпе провести следствие и через месяц поставить его под расстрел. В полном соответствии со сталинским тезисом об обострении классовой борьбы.

В наркомате Цанава держал сотрудников в «ежовых рукавицах», насаждал жесткую палочную дисциплину. Многие бывшие его коллеги, дававшие показания в последующие годы, подробно рассказывали о его грубости и жестокости, о том, что ему ничего не стоило прилюдно унизить человека, плюнуть ему в лицо. Малейшее ослушание расценивалось не иначе как «вредительство» и чревато было тюремными последствиями.

Свидетелями назван был такой факт: Цанава отдал под суд и «упек» на 10 лет сержанта из личной охраны, отказавшегося поливать деревья в его саду. Деспотичный нрав превращал работу с ним в настоящую пытку. За пять послевоенных лет у него сменилось 22 секретаря — угождать Цанаве было нелегким искусством. В то же время, отвечая на московский звонок, Цанава непременно вскакивал и стоял, вытянувшись в струнку, в течение всего разговора.

Как и Берия в Москве, Цанава внедрял в партийные органы и государственные учреждения своих соглядатаев. Осведомители, как правило, всю собранную информацию, весь компромат поставляли лично ему. Множились «досье» на руководителей республики, и хотя о 37-м годе некоторые втайне только вздыхали, процветали те же методы тотальной слежки, доносительства и оговоров. По-прежнему в ходу были откровенно сфабрикованные материалы, лжесвидетельства, инсинуации.

Уже в 1940-м заслуги наркома внутренних дел Беларуси были оценены первым орденом Ленина. После того как части Красной Армии вместе с гитлеровцами провели совместный военный парад в Бресте, Цанава занялся развертыванием аппарата НКВД и сети доносчиков в Западной Беларуси. Цанаве выпала работа и по чистке самого НКВД — многие чекисты пошли по тому конвееру смерти, который создали своими руками.

Когда началась война, сотрудники НКВД вывозили архивы, одних заключенных по политическим мотивам расстреливали на месте в тюрьмах, других строили в колонны и гнали на Восток. Конвоиры имели приказ за подписями Пономаренко и Цанавы: «в случае невозможности обеспечить охрану контингента»— расстреливать заключенных на месте. В июне 1941-го дороги из Вилейки на Полоцк и из Минска на Червень были усеяны сотнями трупов «врагов народа».

Особые отделы, которыми командовал Цанава на Западном, а потом на Центральном фронтах, продолжали делать тоже самое. За свою преступную палаческую деятельность Цанава получил в общем более 30 наград.

В характеристике, утвержденной бюро ЦК, говорилось, что Цанава «активно участвовал в работе ЦК КП(б) в деле развития партизанского движения».

В официальной истории партизанского движения имя Цанавы не значится, несмотря на то, что именно под его «авторством» в 1949 году вышло первое полное описание партизанского движения в Беларуси в двух томах под названием «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков». 15 июля 1953 года приказом Главлита БССР было предписано «конфисковать из библиотек общественного пользования и книготорговли первую часть книги: Цанава Л.Ф. «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков», Минск, 1950 г. 10 000 экземпляров, 342 стр.».

За два года до этих событий Цанава был переведен в Москву на должность заместителя министра госбезопасности. Пробыл он на Лубянке недолго. Но для того, чтобы он попал под следствие, потребовались годы ожидания, и тысячи людей потеряли жизни из-за безумцев, полюбивших пить кровь...

**Игорь КУЗНЕЦОВ**

**Даведка**

Цанава (Джанжгава) Лаврентий Фомич. Родился в 1900 году в селе Хут-Сопели Гегечкорского района Грузии. Отец — крестьянин-бедняк, образование — сельское начальное училище, общеобразовательные курсы в Тифлисе. Был на чекистской, партийной и хозяйственной работе в Грузии, в том числе заместитель председателя лимонно-мандаринового треста, начальник «Колхид-строя»...17 декабря 1938 года назначен народным комиссаром внутренних дел БССР.. С 9 марта 1941 года по июль 1941 года— народный комиссар госбезопасности БССР. 20 июля 1941 года назначен начальником особого отдела Западного фронта и руководителем оперативно-чекистской группы НКВД по БССР. С июня 1943 по 18 марта 1946 года— нарком госбезопасности БССР, с 18 марта 1946 по 3 ноября 1951 года — министр госбезопасности БССР. Позднее взят в Москву для работы в МГБ СССР. Генерал-лейтенант.

4 апреля 1953 года арестован. Умер в заключении 12 октября 1955 года (по другим сведениям, покончил жизнь самоубийством).



Будынак КДБ РБ, у якім паспеў папрацаваць нарком Цанава

# Хроніка беларускіх ілюзіяў

*Панькоў М. Хроніка беларускага жыцця на чужыне (1945—1984 г.). – Мінск, 2001. – 332 с. (Бібліятэка часопісу «Беларускі Гістарычны Агляд»)*




Як падае кароценькая анатацыя да кнігі, «аўтар сабраў усе магчымыя звесткі пра акцыі, святы, імпрэзы беларускіх дзеячоў, што воляю лёсу апынуліся на чужыне». І сапраўды, у «Хроніцы...» з педантызмам, вартым нашай павагі, занатаваныя падзеі жыцця беларускай дыяспары ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Францыі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Іспаніі... Але заўважым, што гэта падзеі беларускага грамадскага жыцця ў эміграцыі. На жаль, «Хроніка...» не дае дастаткова поўнай інфармацыі пра падзеі асабістага, прыватнага жыцця беларусаў у акрэслены перыяд: як і дзе здабывалі яны свой хлеб надзённы? Ці былі здаровыя, або на што хварэлі? З кім браліся шлюбам? Ці захоўваюць дзеці і ўнукі духоўную і матэрыяльную спадчыну сваіх беларускіх продкаў?..

Вельмі мала звестак і пра самога аўтара, а таму, акрамя прадмовы Лявона Юрэвіча і рэдактарскага пасляслоўя Алега Гардзіенкі, у кнігу варта было ўключыць і ўспаміны ці інтэр'вю сучаснікаў М.Панькова, як, напрыклад, Васіля Шчэцькі, Антона Шукелойця, Францішка Бартуля ды іншых.

Аддаючы належнае выдаўцам і рэдактарам кнігі, мусім звярнуць увагу беларускай грамадскасці і на, мякка кажучы, сумны бок справы ў звязку з выхадам згаданай «Хронікі...». Праблема ў наступным. Яшчэ ў 1996 годзе Васіль Шчэцька, паплечнік М.Панькова, у 436-ым нумары газеты «Беларус» пісаў: «Калі М.Панькоў памёр, паўстала пытанне, куды перадаць зборы М.Панькова? Меркавалася перадаць на Беларусь, але рэферэндум Лукашэнкі (14.05.1995) паказаў, што гэтага кроку рабіць няможна. Тады Ніна Тэсла (дачка М.Панькова) і прыяцелі нябожчыка Васіль Шчэцька і Канстанцін Мярляк пастанавілі перадаць архіў і бібліятэку ў Фундацыю П.Крэчэўскага, што ў Квінсе». На вялікі жаль, гэтае рашэнне аказалася памылковым: на 1 кастрычніка 2000 года шматлікія матэрыялы са збору М.Панькова заставаліся неўпарадкаваныя, а значная іх частка разам з бібліятэкай «пасьпяхова» псавалася ў падвале згаданай Фундацыі. Гэткі ж самы лёс напаткаў і бібліятэку беларускай праваслаўнай царквы ў Манхэтэне, ад збораў якой на сённяшні дзень, відаць, мала што засталося. І гэта таксама праўда нашага беларускага жыцця. Вось чаму мы і назвалі сваю сціплую рэцэнзію хронікай беларускіх ілюзіяў.

**Міраслаў ЧАРТАРЫЦКІ, Сяргей ДУБОВІК**

# Папраўкі да закону «Аб адукацыі»

Пасля шматгадзіннага абмеркавання Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі перанесла разгляд у другім чытанні новай рэдакцыі закону «Аб адукацыі», унесенага ў парламент прэзідэнтам. Спрэчкі ў Авальнай зале разгарнуліся вакол чатырох паправак. Першая з іх тычыцца заканадаўчага замацавання аб'ёму штогадовых асігнаванняў на адукацыю ў памеры не менш за 10% ад ВУП. Другая – павышэння заработнай платы настаўнікаў. Дэпутаты прапаноўваюць заканадаўча ўстанавіць яе ўзровень не ніжэй за сярэднюю зарплату ў рэальным сектары эканомікі. Трэцяя папраўка прадугледжвае вяртанне сацыяльных ільгот для сельскіх настаўнікаў. Чацвёртае змяненне ў праект унесена дэпутатам Уладзімірам Навасядам. Ён прапанаваў выключыць з праекту норму пра абавязковае размеркаванне выпускнікоў дзяржаўных ВНУ.

Большасць гэтых паправак патрабуе дадатковага фінансавання, на што не згаджаюцца распрацоўшчыкі праекту. У выніку пасля некалькіх гадзін абмеркаванняў дэпутаты вырашылі адкласці галасаванне па гэтым законапраекце.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 7 снежня

**1941**. Пачатак вайны на Ціхім акіяне. Японскі флот нечакана атакаваў Гаваі, Ганконг, Малаю, Філіпіны ды іншыя амерыканскія, брытанскія і галандскія уладанні. Амерыканцы ў гэты дзень страцілі 5 лінкораў і 14 меншых караблёў, больш за 200 самалётаў і каля 3 тысяч чалавек.

**1988**. Землятрус зруйнаваў другі паводле велічыні горад Арменіі Ленінакан. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, загінулі 29 тысяч чалавек, згодна з неафіцыйнымі — 55 тысяч.

### 8 снежня

**1859**. Выйшаў першы пераклад на беларускую мову паэмы А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш», створаны В.Дунінам-Марцінкевічам. На загад цэнзуры наклад быў знішчаны.

**1861**. Нарадзіўся заснавальнік кінафантастыкі і разнастайных спецэфектаў Жорж Мельес. Гэта ён першы прыдумаў выкарыстоўваць рухомую кінакамеру, зацямненні, паскораныя і запаволеныя здымкі.

**1966**. Нарадзілася ірландская спявачка Шынед О'Конар, якая ўвяла ў жаночую моду фрызуру «на лыса».

**1980**. Псіхічна хворы фанат *The Beatles* Марк Чэпмен смяротна параніў (у грудзі, спіну і левую руку) Джона Ленана. Паліцыі Чэпмен патлумачыў, што сапраўдны Ленан — ён сам, а ў Джона ён страляў, каб «пакараць самазванца».

**1991**. Кіраўнікі Расіі, Украіны і Беларусі скасавалі СССР і заснавалі СНД са сталіцаю ў Мінску.

### 9 снежня

**1886**. Нарадзіўся амерыканскі вынаходнік глыбокай замарозкі фасаваных прадуктаў харчавання (кшталту пяльменяў) Кларэнс Бёрдсей. Ідэю ён запазычыў у эскімосаў, калі скупляў у іх футры на Алясцы.

**1891**. Нарадзіўся Максім Багдановіч. Помнік паэту ў Мінску адкрыўся ў 1981 г.



**1918**. Перад ад'ездам у Вільню ўрад і Рада БНР выдалі 5-ую Устаўную грамату, у якой заклікалі народ змагацца супраць аднаўлення савецкай улады.

**1941**. Японскае войска акупавала Тайланд. Кітай абвесціў вайну Японіі, Германіі ды Італіі.

### 10 снежня

Міжнародны Дзень правоў чалавека.

**1796**. Імператар Павел I на просьбу Касцюшкі загадаў вызваліць з вязніцаў і сібірскай ссылкі ўсіх палонных удзельнікаў паўстання супраць падзелу Рэчы Паспалітай. Генерала Суворава Павел выгнаў у адстаўку.

**1896**. Памёр вынаходнік дынаміту (1867) і славуты мецэнат Альфрэд Бернхард Нобель.

**1901**. Першымі лаўрэатамі Нобелеўскай прэміі сталіся нямецкі фізік Вільгельм Конрад Рэнтген, французскі паэт Франсуа Арман Сюлі-Прудом, галандскі хімік Якаб Хендрык Вант-Гоф і нямецкі мікрабіёлаг Эміль Адольф Берынг. Нобелеўскую прэмію свету тады атрымалі швейцарац Анры Жан Дзюнан і француз Фрэдэрык Пасі.

**1991**. Беларуская дзяржава нацыяналізавала былую ўласнасць КПСС – КП(б)Б.

### 11 снежня

**1781**. Нарадзіўся шатландскі фізік Дэвід Брустэр, які вынайшаў калейдаскоп (1816).

**1856**. Нарадзіўся Георгій Пляханаў, першы прапагандыст марксізму ў Расіі (заснаваў першую арганізацыю ў абарону правоў рабочых, газету «Искра», пераклаў «Маніфест камуністычнай партыі»).

**1936**. Кароль Вялікабрытаніі Эдвард VIII выступіў на радыё з заявою, што выракаецца прастолу на карысць брата, Джорджа V. Эдвард не пашкадаваў кароны дзеля магчымасці ажаніцца з каханай жанчынаю — двойчы разведзенай амерыканкай Уоліс Сімпсан. У той жа дзень каханкі з'ехалі ў Францыю.

**1941**. Германія і Італія, саюзнікі Японіі, якая ўжо ваявала з ЗША, таксама абвесцілі вайну Амерыцы.

**1981**. А 12:27 ад холаду спыніўся Біг Бэн (гадзіннік на вежы брытанскага парламенту).

### 12 снежня

**1821**. Нарадзіўся французскі пісьменнік, выбітны стыліст Гюстаў Флабер. Пра гераіню свайго найбольш вядомага рамана, дзе выкрываецца мяшчанская мараль, Флабер сказаў: «Мадам Бавары — гэта я».

**1844**. Бостанскі стаматолаг Горас Уэлс упершыню скарыстаў для анестэзіі наркатычны «вясёлы» газ. Спроба атрымалася няўдалая: пацыенты зашмат пасміхаліся і рагаталі, што перашкаджала лекару калупацца ў іхнім роце. Праз два гады партнёр Уэлса Уільям Мортан з большым поспехам скарыстаў эфір.

**1896**. Гульельма Марконі наладзіў у лонданскім Тойнбі-холе першую публічную дэманстрацыю радыё. У гэты ж дзень у **1901** г. вынаходнік правёў першую трансатлантычную радыёперадачу (з Карнуэла на Ньюфаўндленд).

**1946**. ААН адмовілася прыняць у свае шэрагі Іспанію і рэкамендавала ўсім краінам дыпламатычны і эканамічны байкот франкісцкага рэжыму з прычыны ягонага фашыстоўскага характару.

**1986**. Пры падлёце да аэрапорта Шонефельд (ГДР) разбіўся самалёт «Аэрафлота» ТУ-134. З 73 пасажыраў-немцаў і 8 членаў савецкага экіпажу 4 чалавекі выжылі.

**1989**. Амерыканская мільярдэрка Леона Хэлмслі, якая праславілася публічнай заявою: «Толькі маленькія людзі плацяць падаткі» – была пакараная штрафам у 7 млн. даляраў і асуджаная да 4 гадоў зняволення за ўхіленне ад сплачвання падаткаў. «Каралева сквапнасці» і яе муж Гары валодалі сеткаю шыкоўных гатэляў агульным коштам у 5 млрд. даляраў.

### 13 снежня

**1916**. Каля 12 тысяч італьянскіх і 6 тысяч аўстрыйскіх салдатаў падчас бою ў Альпах загінулі пад снегавымі лавінамі.

**1961**. Каліфарнійскі рок-гурт *The Beach Boys* дэбютаваў сінглам *Surfin'*.

**1981**. Войцэх Ярузельскі ўвёў у Польшчы ваеннае становішча. Меў рацыю, бо інакш краіну акупавала б савецкае войска, як тое адбылося ў Чэхаславакіі.

**1989**. У горадзе Гуінтаўн (Уэльс) адбыўся першы канцэрт хору глуханямых. Скарыстоўваючы сваю мову жэстаў, інваліды выступалі на адной сцэне і ва унісон са звычайным мужчынскім хорам.

**Падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# «Міліпол’2001» у Ле-Буржэ

Пры канцы лістапада ў Парыжы прайшла Міжнародная выстава ўнутранай дзяржаўнай бяспекі «Міліпол’2001». Больш за 500 кампаніяў і фірмаў, занятых вытворчасцю спецпрадукцыі нямасавага прызначэння, з 35 краінаў паказвалі шматлікім патэнцыйным кліентам камплекты спецыяльнага ўзбраення, амуніцыі і розных унікальных сродкаў (кампутарных і стралковых) пад модным цяпер дэвізам «Антытэрарыст». Выстава была прызначана выключна для вузкіх спецыялістаў, простую цікаўную публіку туды не пускалі. Самая высокатэхналагічная «прадукцыя» была на стэндах ЗША, Францыі, Вялікабрытаніі, Ізраіля і Расіі. Паводле інфармацыі, сціпла пададзенай у прэсе, спецыялісты цікавіліся мініяцюрнымі радыёмікрафонамі, перадавальнікамі тэлесігналаў, апаратурай для пошуку каналаў «пратачэння інфармацыі». Вялікую цікавасць выклікала распрацоўка спецыяльнага носьбіта інфармацыі, які ў выпадку ягонага выкрадання сам вокамгненна знішчае інфармацыю ў памяці. Са зброі спецы сакрэтных службаў адзначылі дасягненні расійскіх збраяроў — бязгучную снайперскую вінтоўку, а таксама бязгучны і бязвогненны спецыяльны аўтамат. Выклікаў зацікаўленасць ахоўных службаў і вайскоўцаў сучасны калючы дрот. Ён знешне не адрозніваецца ад ранейшага, але мае зусім іншыя якасці — яго практычна немагчыма распілаваць. Спатрэбіцца болей за дзве гадзіны, каб перапілаваць яго нажоўкай. А заплеценая ў дрот спецыяльная нітка датчыкаў пры парушэнні адразу дасць ахове сігнал пра чыюсьці спробу трапіць на тэрыторыю.

Падзеі 11 верасня стымулявалі працы ў сферы вытворчасці спецсродкаў для паліцыі і аховы дзяржсакрэтаў, і наступныя выставы, на думку экспертаў, прынясуць неспадзяваныя сюрпрызы спажыўцам гэтай прадукцыі

**Яўген ГАРЭЛІК**

# Святыня коштам 700.000.000 даляраў

Як вядома, маскоўскі храм Хрыста Збавіцеля быў узарваны на загад Сталіна пры канцы 1937 года. Храм аздабляў расійскую сталіцу 64 гады, яго пачалі будаваць у 1839, скончылі і асвяцілі ў 1883 годзе. Да месца зазначыць, што пад храм на загад цара Мікалая I знеслі старажытны Аляксееўскі манастыр, што і дало Сталіну падставу даць загад пабудаваць на вызваленым месцы велічны Палац Саветаў на свой густ. Каб не вайна, так і было б. Але пасля вайны патрэба гульні ў саветы адпала, і катлаван Палаца скарысталі пад плавальны басейн.



Новыя расійскія ўлады ў 1994 годзе вырашылі аднавіць храм, новабудоўлю пачалі ў студзені 1995, а праз 6 няпоўных гадоў у копіі ранейшай святыні пачаліся багаслужбы. Знешне наватвораны храм Хрыста Збавіцеля падобны да арыгіналу. Агульная плошча гэтай пабудовы 34 135 квадратных метраў. Вышыня скляпенняў 103 метры, вышыня іканастасу 27 метраў. Яшчэ новы храм мае музей, залу Царкоўных сабораў і Сіноду, трапезную на 1 200 месцаў, шмат'ярусны паркінг для легкавікоў і аўтастаянку, чым, на думку многіх, моцна нагадвае рэстаранны комплекс. Сюжэтны і арнаментальны іканапіс займае 22 000 квадратных метраў.

Аднаўленне гэтага царкоўнага гіганта каштавала агулам 700 мільёнаў даляраў. Які адсотак складаюць у гэтай вялізарнай суме рублёвыя ахвяраванні простых вернікаў, невядома. Адкуль браліся мільёны і мільёны даляраў — таксама таямніца.

Але ўжо толькі неймаверны кошт храма, які змяшчае 10 000 вернікаў адначасна, робіць яго прыцягальным для цікаўных турыстаў. Для параўнання можна сказаць, што гэткую суму каштуе сучасны аўтабан ад Масквы да Мінска, на які ў «саюзу дзвюх дзяржаваў» няма грошай.

**Ева САЛАВЕЙ**

# «Пачакай, пачакай... — Не магу, не магу!»

## *Інтэрв«ю філосафа і пісьменніка Умберта Эка іспанскаму часопісу La Vanguardia*

— Мне ў студзені споўніцца 70 гадоў. Нарадзіўся я ў П’емонце, жыву ў Мілане, выкладаю ва універсітэце ў Балон»і. Жанаты, у нас двое дзяцей і адзін унук чатырнаццаці месяцаў. Я не фашыст, не галасую за Берлусконі – я сацыял-дэмакрат. Быў кіраўніком розных каталіцкіх арганізацыяў, але пасля гэтага Госпад больш не верыць у мяне. Выпускаю ў свет *Baudolino*.

***— Сен’ёр Эка, адкуль паходзіць гэтае Эка?***

— Мой сябар знайшоў спіс выказванняў, якімі ў 1600 годзе карысталіся езуіты дзеля таго, каб даваць імёны знайдышам. Адно з іх было *excelsis oblatos*, што азначае — «дар нябёсаў», адсюль і паходзіць Эка – імя, якое далі майму дзеду, паэтутрубадуру без бацькі. Значыць, і я дар неба, які, мяркую, людзі змогуць ацаніць.

***— А Вы, Вы падабаецеся самому сабе?***

— Не, мне мой твар не падабаецца. Мне заўсёды больш падабаліся іншыя.

***— У дзяцінстве каго Вы болей любілі?***

— Сваю бабулю па маці, якая першая моцна паўплывала на мяне ў сэнсе культуры. Жанчына, якая абсалютна не разумела ў культуры, была адданая кнігам. Яна давала мне чытаць цудоўныя творы Бальзака, Талстога ці зусім жахлівыя, бо не бачыла між імі ніякай розніцы.

***— І гэтак прайшлі гады вайны?***

— Вайна была надзвычайным досведам, таму што там ты навучаўся выжываць. Цяпер, пасля 11 верасня, я бачу няўпэўненых людзей... Я нарадзіўся ў няўпэўненасці і навучыўся, што трэба жыць у ёй.

***— Вы не баіцёся?***

— Адзінае, чаго я баюся, — гэта хвароба Альцгеймера. Страта памяці – гэта страта свайго Я. Усе астатнія небяспекі другасныя. Таму, стоячы перад рэлігіяй, якая кажа мне, што я рэінкарнуюся, прыкладам, у карову, я пытаю: «Як у карове я буду памятаць пра тое, што я быў Умбертам Эка?». Калі я змагу адказаць, што буду, тады мяне гэта задаволіць.



***— Вас цікавіць улада?***

— Не. Мяне цікавіць аўтарытэт, каб любы сказаў: «Эка сказаў у той кнізе тое і тое, і ён мае рацыю». Мне не падабаецца, калі не прызнаецца мой інтэлектуальны аўтарытэт.

***— А сэкс?***

— Мяркую, што сэкс вельмі карысны, дзякуючы яму я зрабіў двух сваіх дзяцей, якіх я вельмі люблю, і адзін з іх падараваў мне ўнука, якога я таксама надта люблю. Я вельмі паважліва стаўлюся да сэксу.

***— Таму што ён дазволіў Вам увекавечыць сябе?***

— І таму што гэта весела!

***— Які ўзрост для вас самы лепшы?***

— Сённяшні, бо мне ўсё баліць, круціць, я лепш разумею сваё цела.

***— Вы мяркуеце, што можна навучыцца ў болю?***

— Адзін з самых значных набыткаў – гэта досвед, і я вельмі рады, што мне ўдалося назапасіць яго. Адна з прычынаў, па якой я не хачу паміраць, – гэта тая, што я не хачу, каб ён быў страчаны... Магчыма, гэта яшчэ і адна з прычынаў, па якіх пішуцца кнігі.

***— Вы кажаце, што чалавеку патрэбныя утопіі, а Ваша утопія якая?***

— Каб у кожным горадзе быў бар, у якім бы мне без пытанняў прыносілі марціні з лёдам, бо ведаюць, што мне гэта падабаецца?

***— Ці можа слава прывесці да страты чалавечага аблічча?***

— Дастаткова не прымаць яе сур’ёзна. Я вельмі рады, калі людзі чытаюць мае кнігі, хоць гэта і прыносіць пэўныя нязручнасці. Я ўсё-ткі не прымаю і дзякуючы гэтаму магу правесці больш часу, гуляючы з сваімі сябрамі.

***— Мы вырастаем у цынізме?***

— Мы здолелі падоўжыць жыццё, а гэта вельмі вялікая каштоўнасць. І мы непакоімся пра галодных афрыканскіх дзяцей і мноства іншых справаў, якія 200 гадоў таму нікога не клапацілі. Не думаю, што мы сталі горшыя.

***— Вы пісалі пра міфалагічныя персанажы. Вас цікавіць свет чараўніцтва?***

— Так, яшчэ мне падабаецца марожанае. Але думаю, што тыя, хто занадта верыць у свет чараўніцтва, благія людзі, усе фашысты.

***— Чаму Вы так кажаце?***

— Таму што ведаю.

***— Давайце пагаварым пра плынь часу, Вы шмат пісалі і пра гэта.***

— У газетах не варта гаварыць ні пра плынь часу, ні пра Бога, ні пра смерць.

***— Тады я запытаюся пра тое, што ўзрушыла Вас?***

— Першы мёртвы, якога я ўбачыў. Гэта было ў гады вайны, я ўбачыў яго на вуліцы, з куляй у лобе. Гэта вельмі моцны ўспамін. Але я думаю, што таямніца жыцця крыецца ў тым, што ўсё, што адбываецца з табой, узрушвае цябе. Калі няма ўзрушэння, няма і прагрэсу.

***— Што ўзрушыла Вас у дарослым жыцці?***

— Мой бацька памёр, калі нарадзіўся мой сын. Гэтае супадзенне нагэтулькі змяніла мае пачуцці, што я на працягу году не лётаў на самалёце. Я раптам ператварыўся ў майго бацьку.

***— Чаго Вы навучыліся ў яго?***

— Недаверу — ніколі не верыць надта ў тое, што кажуць іншыя.

***— Чым можна ганарыцца?***

— Толькі атрымаўшы дыпломы, мой найлепшы сябар і я сказалі: «Што мы будзем рабіць цяпер?... Мы павінны напісаць кнігу і нарадзіць дзіця – гэта два спосабы перамагчы смерць». У яго адна дачка і 15 кніг, у мяне двое дзяцей і 40 кніг. Мы шчаслівыя.

***— Што неабходна, каб усё жыццё пражыць з адной жанчынай?***

— Пра гэта Вы спытайце ў яе.

***— Вы са свайго боку не зрабілі нічога?***

— Адданасць. Хоць я і не быў добрым мужам, гэта тая якасць, якую я паважаю.

***— Ваша смерць не хвалюе Вас?***

— Мы, філосафы, разумеем, што жыццё – гэта падрыхтоўка да смерці, але мне хацелася б у апошні момант сказаць прыгожыя словы.

***— Вы ўжо падумалі пра іх?***

— Я ўжо выбраў тыя, якія мне хацелася б, каб выгравіравалі на маім магільным камяні, апошнія словы з дыялогу «Горад Сонца» Кампанелы: «Пачакай, пачакай... — Не магу, не магу».

**inosmi.ru**

# Бедная няшчасная каралева

*Калі 20 лістапада 1947 г. прынцэса Уэльская Елізавета бралася шлюбам з герцагам Эдынбургскім Філіпам, гэтае вяселле святкавала ўся Англія, адданая традыцыям манархіі. Цяпер ад той агульнай любові да будучай каралевы не засталося і следу.*

Елізавета II магла стаць чалавекам вельмі прагрэсіўных поглядаў: гэтаму спрыялі самі абставіны яе нараджэння ў 1926г. Гэта першая каранаваная асоба ў гісторыі, якую зачалі пры дапамозе штучнага апладнення. Кволаму і хваравітаму бацьку Берці, тады герцагу Ёркскаму, бракавала сілы, і ягоная жонка, цяперашняя каралева-маці Елізавета (у дзявоцтве Боўз-Лаен) доўгія гады не магла спазнаць радасці мацярынства. У рэшце рэшт лекары дапамаглі ёй зацяжарыць праз ін’екцыю спермы герцага. Каралеўская канцылярыя паведаміла свету пра гэтую падзею ў сваім звычайным шляхетна-драўляным стылі: «Пэўная форма лекавання дала пасляховыя вынікі».

Верагодна, думка пра тое, што яна з’яўляецца ў літаральным сэнсе плёнам тэхнічнага прагрэсу, падалася Елізавеце II настолькі зневажальнай, што яна вырашыла «адпомсціць» эпосе высокіх тэхналогіяў, з рэдкай упартасцю ідучы не ў нагу з часам. З юнага ўзросту яна застаецца прыхільніцаю захавання раскошы каралеўскага двара і няўхільнага выканання правілаў палацавага этыкету. Амерыканскі кінапрадзюсер Джэк Уілсан прыгадвае, як павітаў 13-гадовую Елізавету на прыёме ва Уіндзарскім палацы сардэчнымі словамі: «Добры дзень, маленькая! Як сёння маешся?» — а ў адказ пачуў загад: «Кланяйцеся! Кланяйцеся!». Гэтая пыхлівая дзяўчына вырашыла ўвасобіць у жыццё ўсе найбольш рэакцыйныя і карыкатурныя праявы манархічнай традыцыі. Калі каранаваным асобам належыць быць дураватымі і неадукаванымі, яна будзе такой больш чым трэба. Калі адзін дыпламат згадаў у прысутнасці Елізаветы імя Дантэ Аліг’еры, яна спытала, да якой пароды належыць конь з гэткай мянушкаю.

Мультымільянерша, найбагацейшая жанчына ў Англіі вельмі скваппная. Слугі з Букінгемскага палацу маглі б распавесці сёетое на гэты конт. Сваёй прачцы яна зрабіла на Раство сапраўды «каралеўскі» падарунак — мех зашчэпак для бялізны. Дзеля эканоміі асвятленне ў калідорах і кулуарах каралеўскай рэзідэнцыі ў Лондане амаль заўжды адключанае. У выніку пляменніцам Елізаветы часта даводзілася шукаць свае апартаменты навобмацак.

У ганарыстай Елізаветы ёсць яшчэ адзін непрывабны бок жыцця, пра які шырокая публіка доўгі час нічога не ведала. Мова пра яе «ідылічныя» адносіны з сужэнцам (і далёкім сваяком) Філіпам. Калі прынцэса спыніла свой выбар на гэтым прыгожым станістым мужчыне, што нарадзіўся быў у сям’і датчаніна і немкі на грэцкім востраве Корфу, яе бацькі былі расчараваныя: яны марылі пра лепшую партыю для сваёй дачкі, чым гэты сумнеўны прынц, бацька якога бегаў за кожнай спадніцаю, а маці зачынілася ад свету ў праваслаўным манастыры. Да таго ж Філіп быў стаўленікам свайго дзядзькі, апошняга віцэ-караля Індыі лорда Маўнтбатэна, які шукаў суцяшэння ад бясконцых здрадаў жонкі-німфаманкі Эдвіны ў абдымках армейскіх афіцэраў.

Для Елізаветы ўсё гэта было неістотна, яна хацела толькі свайго выбранніка і нават пагражала бацьку, Джорджу VI, што адмовіцца ўзысці на прастол, калі шлюб не адбудзецца. Філіп пагадзіўся адразу. Ён не быў закаханы ў прынцэсу Уэльскую, але пэўна ведаў, што гэты шлюб, дзеля якога ён адмовіўся ад грэцкага падданства і праваслаўнага веравызнання, — адзіны для яго шанец захаваць гультайскі лад жыцця, да якога прынц адчуваў сваё пакліканне. Філіп і не падазраваў, які кошт яму давядзецца сплаціць за шлюб «па разліку». Ужо праз некалькі месяцаў пасля вяселля ён скардзіўся кожнаму, хто меў жаданне слухаць, на неўтаймаваны сексуальны апетыт сужэнкі. І ўсё ж ён мужна выконваў умовы шлюбнага кантракту і падарыў жонцы чатырох дзяцей — Чарльза, Анну, Эндру і Эдварда, інтымныя прыгоды якіх стануць потым улюбёнай тэмаю брытанскіх газетаў.

Гарачае пачуццё Елізаветы да Філіпа як адрэзала пасля каранацыі ў 1952 г. Цяпер яна была ўжо не жанчынаю, а каралевай, і адразу дала зразумець мужу, якая неадольная дыстанцыя будзе цяпер іх падзяляць. Цяжка прыдумаць такую знявагу, якой бы ні давялося зведаць прынцу-кансорту. Елізавета заявіла, што адмовіцца, насуперак традыцыі, ад прозвішча мужа і будзе ледзі Уіндзар, а не Маўнтбатэн-Уіндзар. Парушаючы шматвяковы звычай, яна забараніла паказваць мужу змест знакамітых «чырвоных куфэркаў» — то бок сакрэтных дакументаў, якія ўрад перадае для азнаямлення кіраўніку дзяржавы. У свой час сужэнец каралевы Вікторыі прынц Альберт меў на гэта права. Адхілены ад дзяржаўных справаў, Філіп аднойчы прызнаўся прыяцелю Марціну Шартры: «Я тут не больш чым амёба», — падкрэсліўшы такой метафарай, што ягоная роля зводзіцца да эксклюзіўнай пастаўкі сперматазоідаў. Такое стаўленне занурыла яго ў дэпрэсію, ад якой Філіп спрабаваў уцячы ў падарожжах па свеце і незлічоных палюбоўных інтрыжках.

Парадаксальная трываласць шлюбу каралевы і прынца, дзіўная на фоне скандальных палюбоўных прыгодаў іхных дзяцей, тлумачыцца пачуццём адказнасці за лёс дзяржавы. Яны не скасоўваюць шлюб ужо не «дзеля дзяцей», а дзеля ратавання манархіі, аўтарытэт якой у грамадстве і без таго з кожным годам апускаецца ўсё ніжэй. Менавіта ў гэтым вобразе іх імёны застануцца ў гісторыі Англіі: было б даволі складана знайсці ў іх жыцці штосьці яшчэ, вартае памяці нашчадкаў.

**Пераклад з англійскай Б.Ю.**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1793 Нумар падпісаны ў друк 6/12/2001 (15:00) Наклад — 9.660